ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№2 (23) люты 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны






## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік"! Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні Белпошты.

Вы можаце падпісацца самі, а таксама падпісаць свайго сябра.

Падарыце Добрую Вестку родным і блізкім!

**Кошт "Весніка" ў новым паўгоддзі на 1 месяц – 2550 руб.**

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

**Заставайцеся з намі!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# У Наваполацку айцец Віталь Даніловіч адправіў першую Святую Імшу

**"Абраны сярод людзей і для людзей пасланы"– такімі словамі можна акрэсліць святарскае пакліканне. Зерне паклікання ў сэрца юнака Віталя Даніловіча засеяў Бог, на заклік якога ён адказаў "так".**

■ **с. Святлана Грэйць**, *тэкст;*
**Вераніка Вараб'ёва**, *фота*

Віталь нарадзіўся ў 1983 годзе ў Наваполацку. Пасля заканчэння школы ў 2000 годзе паступіў у Мінскі прафесійнатэхнічны каледж швейнай прамысловасці.

З часам у сэрцы юнака нараджалася прага да больш цеснага жыцця з Езусам, таму ён абраў манаскую дарогу і ў 2004 годзе ўступіў у ордэн айцоў-марыянаў (МІС).

Наступныя 8 гадоў манаскай фармацыі і навукі ў духоўнай семінарыі прайшлі ў Польшчы. Першыя шлюбы брат Віталь склаў у 2006 годзе, а вечныя – у 2010. Першую ступень святарскага пасвячэння – дыяканат – атрымаў у 2012 годзе. Як дыякан быў накіраваны ў Оршу, дзе працуюць айцы-марыяне.

Калі ў а. Віталя пытаюць пра яго шлях да святарства і пра пакліканне, ён расказвае:

– Першапачаткова бацькі ў маім выбары не перашкаджалі, і гэта было галоўным. Маці згадзілася, баялася толькі, ці вытрымаю я. Тата таксама згадзіўся, але яму цяжка было зразумець сутнасць і сэнс манаскага жыцця, таму ён перажываў гэта так, быццам губляў сына. Складанымі былі тыя моманты, калі Бог мне ачышчаў маю матывацыю, з якой я ўступіў у ордэн. Я зразумеў, што знаходжуся тут не дзеля маіх братоў, з якімі вельмі сябрую, не дзеля багатай гісторыі марыянаў у Беларусі, а дзеля самога Бога, Які прагне, каб я жыў у вельмі блізкіх адносінах з Ім.

Таксама складана было развітвацца з тымі, з кім пачыналі разам гэты шлях. Напачатку нас было 14, а скончылі семінарыю і сталі святарамі толькі двое. Найпрацсей аказалася знаходзіць найлепшых сяброў: яны самі з'яўляліся.

Я хачу падзякаваць Богу за тое, што адчуваю Яго прысутнасць каля сябе, асабліва ў Божым Слове, якое дапамагала мне прымаць адказныя жыццёвыя рашэнні.

Івось 2 лютага ў парафіі Маці Божай Фацімскай у Жодзіне з рук кс. Арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці дыякан Віталь Даніловіч МІС атрымаў святарскае пасвячэнне.

Згодна з традыцыямі Каталіцкага Касцёла, кожны новапасвечаны святар цэлебруе першую Эўхарыстычную ахвяру ў сваёй роднай парафіі. Для а. Віталя роднай з'яўляецца парафія Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Наваполацку. Метавіта там 3 лютага ён цэлебраваў святую Імшу.

На пачатку літургіі дзеці падрыхтавалі танец пад спеў "Credo", падчас якога прыміцыянт набліжаўся да алтара. Ён прывітаў гасцей, якія сабраліся, каб разам маліцца: а. Паўла Наўмовіча, а. Андрэя Ерамінка, а. Тадэвуша Бычкоўскага, братоў у святарстве, дыякана, клерыкаў, сясцёр законных з ордэнаў Змёртвыхпаўстанак і Эўхарыстак і парафіянаў. Гамілію на прыміцыйнай Імшы прамовіў а. Андрэй Сідаровіч МІС.

На прыканцы Эўхарыстыі а. Віталь атрымаў віншаванні, пасля якіх уздзяліў прыміцыйнае блаславенне святарам, дыякану, асобам законным, бацькам, брату і ўсім парафіянам.

**Сведчанне**
Мой тата больш не п'е. Старонка 7




**Воспитание детей**
Кто виноват? Страница 3



**Складаныя пытанні**
Чаму каталікі маюць рацыю? Старонка 4



**Жодзіна**
Пра пасвячэнні новага святара чытайце на стар. 5



**Дзеля любові**
Пра глыбоцкі Карытас чытайце на стар. 4



# Бэнэдыкт XVI адмовіўся ад служэння Рымскага Біскупа



**Бэнэдыкт XVI абвясціў аб сваім рашэнні пакінуць Пасад св. Пятра. Святы Айцец спаслаўся на стан свайго здароўя і немагчымасць належнага выканання свайго служэння. Папа абвясціў гэта 11 лютага на звычайнай кансісторыі.**

"Я паклікаў вас на гэту Кансісторыю не толькі па прычыне трох кананізацый, але і паведаміць вам рашэнне, якое мае вялікае значэнне для жыцця Касцёла. – сказаў Бэнэдыкт XVI, звяртаючыся да кардыналаў. – Разважыўшы гэта шмат разоў у сумленні перад Богам, я набыў упэўненасць, што па прычыне сталага ўзросту мае сілы не дастатковыя, каб належным чынам ажыццяўляць служэнне св. Пятра.

Я цалкам усведамляю, што гэта служэнне ў сваёй духоўнай сутнасці павінна выконвацца не толькі праз дзеянні і словы, але не ў меншай ступені, праз цярпенне і малітву. Аднак, каб кіраваць лодкай св. Пятра і абвяшчаць Евангелле ў сучасным свеце, схільным да хуткіх змен і хваляваным пытаннямі, якія маюць вялікае значэнне для жыцця веры, неабходная як сіла цела, так і духа, якая ў апошнія месяцы аслабела ў мяне настолькі, што я павінен прызнаць сваю няздольнасць добра выконваць даручанае мне служэнне.

Таму, цалкам усведамляючы сур'ёзнасць гэтага акту, у поўнай свабодзе, я заяўляю, што я адмаўляюся ад служэння Рымскага Біскупа, Наступніка св. Пятра, ускладзенае на мяне кардыналамі 19 красавіка 2005 г., так, што з 28 лютага 2013 г., ад 20.00, рымскі пасад, Пасад св. Пятра, будзе звольнены (sede vacante), і паўстане неабходнасць, каб тыя, хто мае кампетэнцыі, склікалі Канклаў для абрання новага Папы.

Дарагія браты, я дзякую вам ад усяго сэрца за ўсю любоў і працу, праз якую вы неслі са мной цяжар майго служэння, і прашу прабачэння ўсіх маіх недахопаў. Цяпер мы давяраем святы Касцёл апецы Найвышэйшага Пастыра, Пана нашага Езуса Хрыста, і просім Яго Найсвяцейшую Маці Марыю, каб дапамагала сваёй мацярынскай дабрынёй Айцам Кардыналам у абранні новага Папы. Калі гаворка ідзе пра мяне, у будучыні я хачу служыць усім сэрцам, усім адданым малітве жыццём, Святому Божаму Касцёлу", – заключыў Бэнэдыкт XVI у сва-ім паведамленні, скіраваным да кардыналаў.

*vatican.by*

# Чаму ты верыш?



**Колькі сябе памятаю, я хадзіла ў касцёл. Заўсёды ганарылася тым, што я каталічка, ніколі не ўтойвала сваёй веры ў Бога. Можа, таму, што вакол мяне былі такія ж сябры-вернікі. Мы ўдзельнічалі ў рэкалекцыях, пілігрымках, калядавалі, проста збіраліся разам пагутарыць. У нас было цікавае жыццё, поўнае фарбаў.**

**Анэля Маслоўская**

Ячытала шмат духоўнай літаратуры, з цікавасцю слухала казанні, заўсёды робячы нататкі ў сваім блакноце. Потым разважала, кожны раз нанова пераасэнсоўваючы сваё жыццё. Святары, сёстры і наша катэхетка заклалі ў кожным з нас, і я не выключэнне, моцны падмурак. Яны з намі размаўлялі як з дарослымі... На розныя тэмы. Цікава, што сэнс многіх гутарак я зразумела праз гады. Дзякуючы ім я не баюся зараз тых жа забабонаў. Якія прыкметы?! Я ж каталічка!!! Я хачу захаваць чысціню да шлюбу, бо ведаю, наколькі гэта важна, калі я хачу сапраўднага сямейнага шчасця. Цяжка, але гэта таго каштуе. Я ведаю.

Калі я пайшла вучыцца, то акунулася ў свет зусім незнаёмых людзей. Гэта было ўжо не такое бясклапотнае існаванне. Было вельмі цяжка. Адзіным выратаваннем стаў Касцёл і Бог, якому можна было даверыць усё. Калі я малілася, стоячы на каленях, адчувала такое шчасце і лёгкасць... Бог усё выслухоўваў. Боль адыходзіў. Я давярала Богу, бо, будучы адной, адчувала безвыходнасць і нічога не атрымлівалася.

Прайшоў час, і знайшліся сябры, якія паважалі мяне менавіта за тое, што я не паддалася, не зламалася, не стала піць, але заставалася вясёлай. Я заставалася сабой і была верная Касцёлу.

А аднойчы адзін хлопец папрасіў завесці яго ў Касцёл. Ён спытаў: "Чаму ты верыш?" А я і не ведала, чаму веру. Думалася, што Бог ёсць і ўсё. Для яго ж адкрыўся новы сусвет. Шмат было нязвыклым. А пасля адной з сустрэч ён моладзі сказаў: "Так, сапраўды, вы, каталікі, крутыя". І тады я зразумела, што мы сапраўды класныя. Галоўнае – не баяцца гэтага, не зыходзіць са свайго шляху веры, як бы складана ні было.

# Меркаванне Нунцыя



**Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроцці, Апостальскі нунцый у Беларусі, у інтэрв'ю украінскаму рэлігійнаму агенцтву "RISU", падзяліўся сваімі меркаваннямі адносна сваёй місіі.**

На пытанне аб складаных адносінах паміж Еўропай і Беларуссю, іерарх адказаў, што "праблемы паміж урадамі, непазбежна становяцца праблемамі паміж людзьмі". Арцыбіскуп перакананы, што нунцый не можа быць нейтральным; ён павінен заўсёды займаць бок людзей, прычым не толькі каталікоў, але людзей у цэлым. "Дыпламат працуе на карысць краіны, у якой знаходзіцца. А карысць краіны – гэта карысць яе народа", – падкрэсліў папскі пасланнік у Беларусі. Ён лічыць, што людзі не павінны плаціць за складаную сітуацыю. "Людзі не вінаватыя", – перакананы ён. "Мы намагаемся паказаць людзям, што Святы Пасад побач з імі, і мы стараемся рабіць усё магчымае, каб аблегчыць іх зносіны з іншымі людзьмі", – адзначыў Апостальскі нунцый.

На пытанне аб магчымасці візіту Бэнэдыкта XVI у Беларусь, арцыбіскуп Гуджэроцці адзначыў: "Гэта не ад мяне залежыць. Мой папярэднік працаваў над гэтым, але ў гэтай справе не вырашана пакуль нічога. Графік Папы вельмі заняты". Ён дадаў, што "быў бы вельмі шчаслівы", калі б візіт Святога Айца адбыўся падчас яго дыпламатычнай місіі ў Беларусі.

*www.vatican.by*

**Хвала Хрысту!**

*З пачуццём глыбокай павагі віншуем шаноўнага, любага ў Хрысце Пану ксяндза Рамана Мурзіча з Днём анёла.*

*Няхай Добры Бог адорвае радасцю ў штодзённай працы і падтрымлівае ў маленькіх перашкодах. Няхай Езус Хрыстус дзеліцца сваім цярпеннем, а Дух Святы заўсёды крочыць побач. Няхай Маці Божая атуляе сваёй апекай, каб яшчэ доўгі час вёў нас дарогай Божай Праўды!*

*Дзякуем за нястомную працу па добраўпарадкаванні нашага Божага Дома, умацаванні ў святасці нашых душаў і ўсёй парафіі. Дзякуем за вернасць Езусу, за ўсмешку на твары, за мудрыя казанні...*

*Яднаемся ў штодзённай малітве з самымі шчырымі просьбамі, каб усе задумы здзейсніліся і прынеслі добры плён на Божай ніве.*

*Фізічнага і духоўнага здароўя на доўгія гады жадаюць*

***удзячныя парафіяне касцёла Імя Марыі ў Параф'янаве***

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславеньня!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ю. Л. Шарабайка** (в. Прыпернае, Глыбоцкі р-н), **Л. Каросцік** (в. Параф'янава, Докшыцкі р-н), **група "Маці ў малітве"** (г. Браслаў), **Ганна Жылевіч** (в. Каменчане, Іўеўскі р-н, Гродзенская вобл.), **Ульяна Міхаль** (в. Параф'янава, Докшыцкі р-н), **Фаіна Яршова** (в. Фарынава, Полацкі р-н), **Соф'я Кулік** (в. Мікелеўшчына, Мастоўскі р-н, Гродзенскай вобл.), **Вольга Парневіч** (агр. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Вімоня Барткевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Крысціна Букатава** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Генэвэфа Дубіловіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Тацціяна Рамейка** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Яніна Сінкевіч** (в. Муляры, Пастаўскі р-н), **Антаніна Дарашкевіч** (в. Янкавічы, Пастаўскі р-н), **Даната Унтан** (в. Янкавічы, Пастаўскі р-н), **Б. Ткачонак** (г. Глыбокае), **Марыя Матус** (г. Валожын, Мінская вобл.), **Соф'я Машара** (г. Мёры), Аліцыя (г. Паставы), **Алена Бурч** (г. Ліда, Гродзенская вобл.), **с. Фаўстына Цыдзік** (в. Каменка, Шчучынскі р-н, Гродзенская вобл.), **Станіслаў Вышадка** (в. Заваты, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выданне кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. Няхай Вас блаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Боль Росицы

Приближается 70-ая годовщина Росицкой трагедии, которая в сердце кровоточит незаживающей раной и не угаснет до конца моих дней на земле. А особенно тревожит память в февральские дни, когда вспоминаю, как вокруг горели деревни, как нелюди сжигали живых людей и даже маленьких деток бросали в адское пламя. На многие вёрсты доносились стоны, крики и плач, а также пулемётная стрельба.

Да разве можно такое забыть?! Всё это как вчерашний день стоит перед моими глазами. В эти февральские дни и ночи моё сердце обливается кровью, а из глаз текут горькие слёзы, которыми обмыты моё детство и юность и вся жизнь до конца дней.

Вот поэтому, милые, добрые люди, молодёжь и дети земли белорусской, я вас очень прошу не забывать о многострадальной Росице. Приезжайте и приходите помолиться и поклониться блаженным мученикам кс. Юрию Кашире и кс. Антонию Лещевичу, который зажёг моё детское сердце искренней любовью к Всемогущему Господу. А также поклониться всем невинным жертвам трагедии, которые молятся за нас и просят милости у Господа для всех нас.

Милосердный Господь вывел из пламени меня с мамой и сестричку Лидию. Любящий и милостивый Бог посылает нам благословение и Свои Дары, а помощь в ответ на наши молитвы и просьбы. Так будем же едины в молитвах и благодарении Господу нашему и Спасителю Иисусу Христу!

***Валентина Марцинкевич,***
*бывшая узница*

**Благодарность всем пилигримам!**

*Братья родные, мы вам благодарны,*
*Пред вами открыты настежь сердца.*
*Вы нам не чужие, мы все как родные,*
*Ведь все мы Единого дети Отца.*
*Мы вам расскажем, как из пучины*
*Огненной в пагубный час нас извлёк,*
*Как Он привёл нас к духовной святыне*
*И Чудное Слово спасенья изрёк.*
*Мы вам расскажем, как дивно, спокойно*
*Господь наш беседовал с нами не раз.*
*Братья! Споём Ему дружно и стройно!*
*Бог же один и нас, и у вас.*

# Грамніцы ў Параф'янаве

**2 лютага ў Каталіцкім Касцёле адзначаецца свята Ахвяравання Пана, якое традыцыйна называюць яшчэ святам Маці Божай Грамнічнай. У парафіі імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве ў гэты дзень адбылася дэканальная сустрэча духавенства і кансэкраваных асобаў.**

**Юры Ючкавіч**, *тэкст і фота*

Прысутнічалі кс. дэкан Раман Мурзіч, кс. Віктар Місевіч з Бягомля, айцы і законныя браты, а таксама сёстры з Докшыц і Параф'янава. Святая Імша распачалася працэсіяй. Казанне падчас Святой Імшы прамовіў а. Марэк Пасют. Ён нагадаў аб прыкладзе жыцця св. Сімяона, які цвёрда чакаў прыходу Месіі. Напрыканцы Святой Імшы адбылося аднаўленне манаскіх шлюбаў Богу.

З нагоды свята кожны вернік прынёс з сабой свечкі для асвячэння. Грамнічная свечка сімвалізуе прысутнасць Езуса – Божага Сына і Марыю – Маці Божую. Гэтая свечка, асвечаная ў Дзень Маці Божай Грамнічнай, павінна быць у кожным хрысціянскім доме.

Асвечаныя ў гэты дзень свечкі запальваюць у час навальніцаў, якія суправаджаюцца моцным ветрам, маланкамі і грымотамі. А таксама калі на душы цяжка, калі хтосьці хварэе альбо памірае, калі сняцца кашмары. Ці калі хтосьці паехаў у дарогу, каб шчасліва вярнуўся дадому, каб апека Маці Божай ратавала ад небяспекі.

Запаленую грамнічную свечку таксама даюць у рукі таму, хто памірае, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прывяла яго душу ў неба. Там, дзе хрысціянін моліцца перад абразамі і запаленай грамнічнай свечкай, няма месца для злога духа.



# Калядаванне ў Паставах

Вось і закончылася важная парафіяльная падзея – "Калядаванне", якое доўжылася ўвесь студзень. Сімвалічным жэстам у гэты час сталі суседскія спатканні. Пасля асвячэння дамоў ці кватэр суседзі збіраліся разам, каб прачытаць урывак з Евангелля аб нараджэнні Езуса, паразважаць над Святым Пісаннем, паспяваць калядкі. У такой нефармальнай атмасферы людзі станавіліся больш адкрытымі, задавалі розныя пытанні, а святар даваў яскравыя тлумачэнні.

У нашым шматкватэрным доме сабраліся на сустрэчу, якая доўжылася каля трох гадзін, амаль усе вернікі-каталікі, больш за 20 чалавек. Мы ўсе вельмі ўдзячныя нашаму святару Вадзіму Прасяному за чуласць і добразычлівасць, за павагу да вернікаў і адданасць Пану Богу. 18 лютага кс. Вадзіму споўніцца 30 гадоў, і мы, усе парафіяне, віншуем яго з юбілеем і жадаем моцнага здароўя і вялікай ласкі Пана Бога ў яго нялёгкай працы па ўзмацненні веры сярод нас. Няхай Маці Божая заўсёды атуляе яго сваёй апекай.

*Аліцыя Трафімовіч,*
*г. Паставы*

# Гумар

Аднойчы жанчыне прысніўся сон, што за прылаўкам крамы стаяў Гасподзь Бог.

– Госпадзе! Гэта Ты! – усклікнула яна з радасцю. – Так, гэта Я, – адказаў Бог. – А што ў Цябе можна купіць? – спытала жанчына. – У Мяне можна купіць усё, – прагучаў адказ. – У такім выпадку дай мне, калі ласка, здароўя, шчасця, кахання, поспеху і шмат грошай. Бог добразычліва ўсміхнуўся і пайшоў у суседняе памяшканне па замоўлены тавар. Праз некаторы час Ён вярнуўся з маленькай папяровай скрыначкай.

– І гэта ўсё?! – усклікнула здзіўленая і расчараваная жанчына. – Так, гэта ўсё, – адказаў Бог і дадаў: – Хіба ты не ведала, што ў Маёй краме прадаецца толькі насенне?

* * *

Адна сястра ўмела бачыць заўсёды ва ўсіх толькі добрае.

У яе пытаюцца:

– Можа, і ў сатане Вы бачыце нешта добрае?

– Так, – адказала яна. – Ужо надта ён працавіты...

* * *

Доктар касманаўту перад аперацыяй:

– Аперацыя будзе вельмі складаная, давайце памолімся.

Касманаўт:

– Але я столькі раз лётаў у космас, і ніколі не бачыў Бога ...

Доктар:

– А я столькі разоў рабіў аперацыі на галаўным мозгу і ні разу не бачыў ніводнай думкі.

* * *

...Прачытаў хрысціянін Псалом 126:2 і вырашыў памаліцца перад сном:

– Госпадзе, пашлі мне сон праведніка!

Прачынаецца раніцай і наракае, што ўсю ноч яго мучылі кашмары. Вырашыў паспрабаваць яшчэ раз і зноў памаліўся той жа малітвай. Зноў прачнуўся раніцай, наракаючы на неспакойную ноч. На трэці вечар хрысціянін, не здагадваючыся, пытаецца ў малітве:

– Госпадзе, я ў Цябе прашу сон праведніка, а Ты пасылаеш мне жахі і пакуты!

Раптам чуе голас:

– А як, ты думаеш, адчувае сябе праведнік, які жыве так, як ты!?

* * *

Мудрэц спытаў у вучня: «У чым заключаецца самая жудасная трагедыя чалавечага жыцця?»

– Напэўна, у тым, што чалавек не знаходзіць адказаў на свае пытанні? – спытаў вучань.

– Не, – адказаў мудрэц. – У тым, што ён не знаходзіць пытанняў, на якія варта шукаць адказы».

*Падрыхтавала*
*Алена Пажога*




# КТО ВИНОВАТ?



Здравствуйте, уважаемые читатели. Сегодня я хотел бы поговорить о значении моральных ценностей в воспитании ребёнка. Современный мир предлагает огромную массу разных подходов и концепций для воспитания всесторонне развитого ребёнка. Но проходит время, и мы начинаем замечать, что поведение ребёнка не совсем такое, как бы нам хотелось. Начинаем искать причину, рассматриваем под увеличительным стеклом его поведение. Подвергаем изучению его окружение. Одним словом, ищем того, кто виноват в том, что наш ребёнок выходит из-под контроля. Вернее, кто виноват, что наш ребёнок ведёт себя и думает не так, как мы его учили.

А давайте зададим себе вопрос: кто же является самым главным учителем и наставником для ребёнка? Я думаю, что после недолгих раздумий вы дадите ответ – семья. Не папа, не мама, а именно семья. Для ребёнка папа с мамой неразделимы. И ценности, которые они несут в себе, тоже должны быть нераздельными. Давайте попробуем с вами смоделировать жизненную ситуацию.

**Для ребёнка папа с мамой неразделимы.**

Мама учит ребёнка не обманывать, а папа стабильно раз в неделю приходит «под шафе» после посиделок с друзьями и придумывает душещипательную историю о том, что был повод и никак нельзя было отказать. Жена, которая привыкла выслушивать такие истории, перестаёт обращать внимание. Ребёнок, видя такое положение дел, пробует тоже обманывать. Когда обман не замечают в первый, второй, третий раз, ребёнок получает подкрепление своего поведения: обман – это не плохо. Сперва маленький обман, потом – обман посерьёзнее.

Потом слышим возмущение мамы: «Где ребёнок научился врать? Это детский сад! Это школа его научила!» Нет, дорогая мама, это вы с папой научили ребёнка обманывать благодаря своему поведению.

А давайте с вами рассмотрим ещё одну жизненную ситуацию. Ребёнок просит у папы купить жевательную резинку. Папа согласен, но тут с кухни доносится голос мамы: «Никаких жевательных резинок, лучше булочку или пирожное». Ребёнок начинает понимать, что мнением родителей можно манипулировать. То, что может разрешить папа, необязательно знать маме. То, что можно попросить у мамы, необязательно должен знать отец. Так у ребёнка формируется двуличие. Я – для мамы, я – для папы. Во взрослой жизни такой ребёнок начинает строить своё поведение по похожему принципу.

Нередко мы, взрослые, забываем, что наши дети по-другому воспринимают окружающий мир. Для них важны не только слова, но и наше поведение. А ещё, самое важное, какими эмоциями мы подтверждаем наши моральные ценности. Если мы, имея жизненно важные ценности в себе, показываем, как они важны для нас, что они, ценности, дарят нам уверенность и спокойствие, то можно с гарантией сказать, что эти ценности дети с радостью примут для себя и будут их нести в себе, даря родным и близким радость.

*Юрий Романюк,*
*психолог*

# Рэкалекцыі ў Друі

**Аляксандр Сінкевіч**, *тэкст;* **с. Наталля Арлянковіч**, *фота*

**Па традыцыі ў канцы студзеня ў Друі сабралася моладзь на рэкалекцыі пад назвай «Вось я». Арганізатары сустрэчы с. Наталля Арлянковіч і кс. Тадэвуш Дабравольскі віталі маладых людзей з Маладзечна, Браслава, Мёраў, Іказні і іншых куткоў Беларусі.**



Разам удзельнікі рэкалекцый працавалі ў групах, разважалі над Божым словам. Раніцай усе збіраліся на супольную малітву ў кляштары сясцёр-эўхарыстак. З падарункамі моладзь наведала дом састарэлых.

Дні сустрэчы праляцелі вельмі хутка. Не хацелася ад'язджаць дадому. Малітва, агульны ўзнёслы настрой, пачуццё хрысціянскай радасці, прыемныя ўспаміны застануцца ў нашых сэрцах надоўга.

# Даверыцца Богу

Як хутка бяжыць час! Ужо прайшоў месяц 2013 года, у якім я зрабіла штуршок да лепшага, новага жыцця.

Доўгі час я хацела паехаць у іншы горад, вучыцца на іншай спецыяльнасці, знайсці работу па душы, хацела сям'ю. Гэтыя думкі трывожылі мяне ўвесь час. Я злавалася на сябе, што нічога не магу змяніць. Часта ў малітвах пытала ў Бога: "Чаму ўсё так? За што столькі выпрабаванняў"?

Час ішоў… Мала што змянілася з працай, з вучобай. Але я перастала чакаць змяненняў. Больш актыўна стала ўдзельнічаць у хрысціянскіх мерапрыемствах, пачала рэалізоўваць свае даўнія задумы, якія цэлы час адкладвала для "лепшага жыцця".

Разам з тым кожны дзень малілася словамі: "Езу, давяраю табе". І сапраўды я пачала давяраць Яму ўсё: цяжкасці ў працы, паражэнні і дасягненні ў спорце, каханне, якое развальвалася на часткі. Зараз, калі ў маім жыцці штосьці адбываецца, я ведаю: так трэба, на гэта ёсць згода Бога. Усё пераасэнсоўваю. Тады становіцца лягчэй.

Я доўга ішла да таго, каб ўсё зразумець, і зрабіла пэўныя высновы. Аказваецца, шкадаваць сябе, скардзіцца на лёс, на родных нашмат прасцей, чым проста давярыцца Богу. Вы не ўяўляеце, як складана аддаць Яму ўсе крыўды.

Насамрэч рознага кшталту крыўды, накручванне сябе "разбурае" і не дазваляе ісці наперад. Таму я ўсё гэта пакінула ў старым, 2012 годзе і з даверам да Госпада ўвайшла ў новае жыццё.

*Анэля Маслоўская*

# Дзеля Любові

**У Віцебскай дыяцэзіі імкліва развіваюцца парафіяльныя арганізацыі "Карытас". Гэта штосьці новае для Касцёла ў Беларусі. З кіраўніком глыбоцкага аддзялення "Карытас" Інай Вайцяховіч "Каталіцкі Веснік" пагутарыў пра дабрачыннасць.**

**– Іна, як даўно Вы займаецеся дапамогай людзям?**

– Восем гадоў назад я пачала займацца з інвалідамі па лініі "Бэтэль-Карытас" і ўжо два гады працую непасрэдна ў парафіяльным "Карытас".

**– Я так разумею, што з пачаткам працы ў парафіі і для парафіі спектр Вашай дзейнасці пашырыўся? Каму дапамагае Ваша арганізацыя, апрача інвалідаў?**

– Мы апякуемся шматдзетнымі, малазабяспечанымі сем'ямі. Таксама дапамагаем самотным людзям, састарэлым і дзецям у прытулку. Нядаўна пачалі аказваць дапамогу нашаму раённаму шпіталю і школам.

**– А ў чым сакрэт Вашай дзейнасці? Чаму Вы дапамагаеце іншым?**

– Гэтае пытанне мне ўсе задаюць *(усміхаецца)*. І мне нават крыху сорамна адказваць тое самае ўсім. Тут усё вельмі проста. Імкненне дапамагаць іншым у мяне закладзена з дзяцінства. Я дзякуючы маім бацькам была выхаваная пры Касцёле. І словы Хрыста – "калі вы памаглі найменшаму з братоў маіх – Мне памаглі" – з дзяцінства засталіся ў маім сэрцы. У кожным чалавеку я бачу Хрыста, таму і не магу прайсці міма, нават калі гэта п'яны алкаголік ляжыць на дарозе. Спыняюся і адцягваю яго, каб яго ўратаваць і кіроўцу, які можа ехаць па гэтай дарозе.

**– Каб дапамагаць іншым матэрыяльна, трэба мець нейкія сродкі. Хто з'яўляецца спонсарамі глыбоцкага "Карытас"?**

– Разумееце, парафіяльны "Карытас" – гэта Касцёл. Гэта агульная справа. Туды ўваходзяць і нашы святары, і сёстры, і звычайныя вернікі. Першыя дабрачынныя акцыі праводзіліся дзякуючы дапамозе нашага пробашча ксяндза Мечыслава Янчышына. У касцёле мы таксама заклікаем вернікаў далучацца да агульнай справы, ахвяруючы сродкі. Восенню правадзілі акцыю "З усмешкай у школу". Самі вернікі прыносілі канцылярскія прылады для дзяцей, многія ахвяравалі і грошы на гэту мэту. Аднойчы мы правялі такі дабрачынны гандаль: прадавалі вернікам печыва, якое самі спяклі, а на атрыманыя грошы зладзілі акцыю "Мы разам!" для інвалідаў. Гэта была маштабная акцыя, у якой прынялі ўдзел госці з шасці раёнаў, таму таксама фінансавая падтрымка глыбоцкіх парафіянаў была вельмі дарэчы.

**– А што наконт мясцовых арганізацый, прадстаўнікоў улады?**

– Было б несправядліва не згадаць пра іх. Нам аказваў дапамогу Белаграпрамбанк, глыбоцкі мясакамбінат, РайПО, хлебазавод. Мы шчыльна супрацоўнічаем з райвыканкамам. Алег Віктаравіч Морхат, наш старшыня выканкама, заўсёды цікавіцца нашымі акцыямі і ідзе насустрач, дапамагае ў арганізацыі. Галіна Уладзіміраўна Унуковіч, намеснік старшыні па сацыяльных пытаннях, таксама заўсёды нас падтрымлівае.

**– Выходзіць, дабрачыннасць пад эгідай "Карытас" у Глыбокім яднае ўсё грамадства?**

– Дакладна так. І нават, па шчырасці прызнаюся, што дапамагаем мы больш праваслаўным, чым католікам. Узровень нашай працы настолькі вырас, што тэлефануюць нават з іншых раёнаў і просяць дапамогі.

**– Бачыць бяду і няшчасце кожны дзень – гэта няпроста. Адкуль у Вас бяруцца сілы для "Карытас"? Тым больш, што Вы аказваеце дапамогу абсалютна бясплатна.**

– Я Вам раскажу пра адзін выпадак. Аднойчы наш пробашч кс. Мечыслаў вярнуўся з каляды і расказаў мне пра дзіцятка-інваліда, якому была неабходная каляска. Я пабывала ў гэтай сям'і, мы выйшлі на нямецкія дабрачынныя арганізацыі. Каляску прыслалі. Вы можаце сабе ўявіць, як я бегала, каб хутчэй аформіць усе дакументы і дзіцятка магло атрымаць гэтую дапамогу? Незабыўны для мяне момант, калі я наведвала гэтую сям'ю. Дзіця – інвалід і не можа гаварыць. Адзінае, чым яно можа штосьці расказаць пра свае адчуванні, – гэта ўсмешка. Калі я ў бачыла гэтую ўсмешку дзіцяці-інваліда на калясцы – я была на сёмым небе ад радасці.

**– А якія цяжкасці бываюць у валанцёраў "Карытас"?**

– Многія здзіўляюцца, навошта нам аж 40 валанцёраў добраахвотнікаў. Справа ў тым, што бачыць людскую бяду – гэта вялікая псіхічная нагрузка. І нашы валанцёры патрабуюць проста адпачынку, таму мы падмяняем адно аднаго. Цяжка бывае, калі людзі звяртаюцца да нас з прэтэнзіямі: маўляў, а чаму вы мне дапамаглі толькі адзін раз? Яны не разумеюць, што мы хочам дапамагчы многім хоць і аднаразова, чым адным і тым жа пастаянна. Ну, і спадзяёмся, што хутка ў нас з'явіцца сваё памяшканне. Без офіса складана працаваць. Трэба мець месца для сустрэч з людзьмі, а таксама, каб захоўваць дакументы.

**– Што хацелі б Вы пажадаць чытачам "Каталіцкага Весніка"?**

– Мне вельмі хочацца, каб моладзь больш падключалася да дабрачыннасці. Каб людзі не забываліся, што Бог ёсць любоў. І пра гэтую любоў не баяліся і не саромеліся сведчыць сваімі ўчынкамі.

**– Дзякую за размову. І поспехаў Вам!**

*Гутарыў кс. Віктар Місевіч*

# Чаму каталікі маюць рацыю?



**На інтэрнэт-старонцы агенцтва Zenit змешчаны агляд святара Джона Фліна, LC, прысвечаны кнізе канадскага каталіка-канвертыта ў абарону каталіцызму. Устойлівы "антыкаталіцызм" – гэта, магчыма, адна з апошніх прадузятасцяў, якія шырока прымаюцца сучасным "цывілізаваным грамадствам", але канадскі пісьменнік і журналіст Майкл Корэн не збіраецца з гэтым мірыцца.**

У яго кнізе, якая нядаўна ўбачыла свет у выдавецтве МакКлелланда і Сцюарта пад назвай «Чаму каталікі маюць рацыю?», разгледжаны найбольш папулярныя абвінавачванні ў адрас Каталіцкага Касцёла. Корэн нарадзіўся ў атэістычнай сям'і, яго бацька быў габрэем. Ён свядома звярнуўся ў каталіцтва ва ўзросце 20-ці з лішнім гадоў. Яго габрэйскае паходжанне дапамагала рабіць кар'еру, а вось канверсія ў каталіцтва каштавала яму двух месцаў працы і адмовы ў супрацоўніцтве з боку многіх СМІ. Пра гэта Майкл Корэн напісаў сам у прадмове да сваёй кнігі.

## "Сэксуальныя скандалы"

А пачаў сваю кнігу наш аўтар з тэмы, пра якую, паводле яго слоў, ён не хацеў і не павінен быў пісаць. А менавіта з «педафільскага скандалу», у якім было замяшана каталіцкае духавенства. Корэн прызнаў, што сваімі ўчынкамі гэтыя святары нанеслі вялікую шкоду душам многіх людзей, але, разам з тым, адзначыў, што вялікая частка крытыкі ў адрас каталіцкага кліру была беспадстаўная. Падобныя злоўжыванні зусім не характэрныя для каталіцызму. Крытыкі, якія спрабуюць вывесці выпадкі сэксуальных злоўжыванняў з вучэння, што прапаведуецца Каталіцкім Касцёлам, ці з ладу жыцця яго духавенства, не ўлічваюць таго факту, што падобныя рэчы здараюцца і ў іншых Цэрквах і рэлігіях, прычым нават у большым маштабе. У выніку ж урокаў, якія былі вынесены са скандалу, Каталіцкі Касцёл ператварыўся ў адно з самых бяспечных месцаў для маладых людзей. Такім чынам, «сэксуальны скандал», у які было ўцягнутае каталіцкае духавенства, можа даць падставу да асуджэння паводзін канкрэтных людзей, але не Касцёла, – падводзіць вынік аўтар.

## "Крыжовыя паходы"

У другой частцы сваёй працы Майкл Корэн разглядае пытанні крыжовых паходаў і інквізіцыі. Так, у гэтых сферах Касцёл не заўсёды дзейнічаў найлепшым чынам, аднак для свайго часу Касцёл рабіў усё досыць этычна і ў цэлым быў сілай дабра, – сцвярджае аўтар.

Разважаючы пра крыжовыя паходы, ён перш за ўсё адзначае, што калісьці Святая Зямля была цалкам хрысціянскай тэрыторыяй, а потым яе заваявалі мусульмане. Крыжовыя паходы зусім не былі адлюстраваннем імперыялістычных і каланіяльных памкненняў, яны не здзяйсняліся з мэтай эксплуатацыі і рабавання. Наадварот, многія заможныя сем'і згалелі, падрыхтоўваючы ў крыжовыя паходы сваіх бацькоў і сыноў разам з іх світай.

Сучасныя навуковыя даследаванні абвяргаюць і тое меркаванне, згодна з якім большасць удзельнікаў крыжовых паходаў былі выхадцамі з бедных сем'яў, што ішлі на вайну дзеля нажывы. На самай жа справе крыжакі былі элітай сярэднявечнага "высакароднага грамадства".

## Багацце Касцёла

Яшчэ адна ўпадабаная тэма крытыкаў Касцёла – яе багацце. "Бо Касцёл проста купаецца ў грошах, у той час як паўсвету галадае", – цытуе антыклерыкалаў Майкл Корэн. Так, шматлікія неацэнныя творы мастацтва захоўваюцца ў Ватыканскіх музеях, адкрытых, між іншым, для шырокай публікі, – працягвае аўтар. Касцёл збіраў гэтыя творы на працягу стагоддзяў і цяпер захоўвае іх як каштоўную спадчыну ўсяго чалавецтва. Дык што ж, трэба гэтыя творы мастацтва прадаць, а атрыманыя сродкі падзяліць паміж тымі, хто мае патрэбу? – пытаецца аўтар. Але такая акцыя насіла б толькі аднаразовы характар і на становішчы людзей, якія маюць патрэбу, асабліва не адбілася б. А вось чалавецтва пазбавілася б свайго вялікага мастацкага здабытку, якое тады асела б у прыватных, закрытых для большасці калекцыях.

**А хіба Каталіцкі Касцёл не будуе бальніц, школ, прытулкаў і дамоў састарэлых, хіба не ўтрымлівае шматлікія іншыя ўстановы таго ж кшталту? – адзначае Корэн. Хіба не праводзіць гэты Касцёл велізарнай дабрачыннай працы ва ўсіх рэгіёнах зямнога шара?**

## Абараняючы жыццё

Ёсць у кнізе Майкла Корэна і раздзел, прысвечаны сучаснай пазіцыі Каталіцкага Касцёла па пытаннях біяэтыкі і сэксуальнасці, з-за якой увесь час знаходзіцца пад агнём крытыкі. Абсалютная забарона Касцёлам абортаў і кантрацэпцыі адпавядае маральным каштоўнасцям, асноватворным правам чалавека і пацвярджаецца сучаснымі навуковымі даследаваннямі.

Эмбрыён – гэта асобная чалавечая істота з моманту зачацця, і такі, як ён, мае правa на жыццё. Між тым, некаторыя свецкія СМІ малююць актывістаў «Pro-Life», што змагаюцца за правы ненароджаных дзяцей, як крайніх фанатыкаў. Сучаснае грамадства лічыць сябе вельмі прагрэсіўным і памяркоўным, а паміж тым адмаўляе ў праве на жыццё інвалідам ва ўлонні маці і нават інвалідам, якія жывуць, дапускаючы для іх эўтаназію.

Майкл Корэн закранае ў сваёй кнізе і многія іншыя аспекты дзейнасці Каталіцкага Касцёла, якія становяцца аб'ектам неабгрунтаваных, часта абумоўленых простым невуцтвам і некампетэнтнасцю нападак. Праца аўтара будзе вельмі карысная ўсім "сучасным апалагетам", тым, хто шчыра жадае абараніць свой Касцёл ад часта паўтаральных нападаў.

*Паводле www.grodnensis.by*

*Друкуецца са скарачэннямі*

# Пажаданні для закаханых

**Найбольш рамантычным на працягу года лічаць Дзень усіх закаханых, або Дзень св. Валянціна, які адзначаецца 14 лютага. Таму хрысціянскія пары склалі для ўсіх закаханых свае пажаданні.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**Андрэй і Таня Кайранцы:**
– Хочам пажадаць усім закаханым, каб давяралі адно аднаму. Асабліва важна не шукаць у сваёй палоўцы недахопы. Праводзьце як мага больш часу разам, атрымлівайце шмат яскравых уражанняў! Жадаем быць заўсёды шчырымі, захоўваць ласкавыя пачуцці як мага надалей. Не забывайцеся дапамагаць адно аднаму і падтрымліваць у розных складаных сітуацыях!



**Ягор Парфяновіч і Валянціна Вішнеўская:**
– Жадаем усім закаханым быць адно для аднаго сапраўднай дарогай, што вядзе да Бога! Няхай вашае каханне будзе тым сапраўдным пачуццём, што радуе сэрца і натхняе на дабро! Цаніце адно аднаго, рабіце шчаслівымі! Не крыўдзіце і не прыніжайце! Будуйце сваю будучыню на трывалым падмурку – Езусе Хрысце. Няхай Бог дапамагае вам зберагчы цнатлівасць і чыстыя сэрцы. Асцерагайцеся эгаізму, які імкнецца поўнасцю падпарадкаваць сабе каханага чалавека! Любіце з усіх сілаў і імкніцеся, каб каханы чалавек быў шчаслівым!!! Прымайце адно аднаго такімі, якімі вы ёсць. Вучыцеся любіць па-сапраўднаму!



**Андрэй і Аксана Дашкевічы:**
– Маладым людзям, якія пазнаёміліся і адчуваюць пачуццё закаханасці, мы хочам пажадаць паспрабаваць як мага лепш разабрацца ў сваіх пачуццях. Калі гэта пачуццё спакойнай закаханасці, то жадаем адвагі ў тым, каб не баяліся ўзяць шлюб, каб захавалі чысціню ў фізічных і духоўных адносінах. Важна таксама сказаць "так" адно аднаму не толькі перад дзяржавай, але і перад Богам, які заўсёды дапаможа ў вырашэнні жыццёвых цяжкасцей. Хочам пажадаць сужэнцам быць адкрытымі на дзяцей. Толькі з іх з'яўленнем маладыя людзі стануць сапраўднай, паўнавартаснай сям'ёй.





**Юрый і Вольга Нікалаенкі:**
– Каханне – гэта вялікая праца. Калі кахаеш чалавека, жадаеш яму дабра, турбуешся, заўсёды чакаеш моманту сустрэчы і вельмі сумуеш, калі не разам. Мы прайшлі доўгі і складаны шлях да нашага сужэнства, але ён узмацніў і выхаваў нас, дапамог зразумець, што з'яўляецца асаблівым і галоўным у жыцці. Жадаем усім закаханым навучыцца разумець і чуць адно аднаго, любіць шчыра і па-сапраўднаму!

**Алег і Алена Лявіцкія:**
– Часам людзі задаюць нам пытанне: чаму ўжо пасля трох месяцаў знаёмства мы ўзялі шлюб? На гэта была Божая воля. Мы разам ужо 2 гады і вельмі радыя, што ёсць адно ў аднаго. Мы, дарэчы, поўныя супрацьлегласці, якія дапаўняюць адно аднаго. Хочацца пажадаць, каб юнакі і дзяўчаты, мужчыны і жанчыны, бабулі і дзядулі моцна любілі адно аднаго і Бога. Жадаем, каб кожны з Божай дапамогай абавязкова знайшоў сваю палову!



**Дзмітрый і Наталля Арцюхі:**
– Сямейным парам жадаем спакою. У спакоі заключаецца і любоў, і радасць, і здароўе сям'і. Жадаем цярпення адно да аднаго. Важна ўмець прабачаць. Тым, хто яшчэ толькі сустракаецца, жадаем атрымліваць асалоду ад момантаў, пражытых разам. Першапачатковыя адносіны – падмурак будучай сям'і. Таму патрэбна, каб закаханыя прыкладвалі ўсе намаганні ў ажыццяўленні сваіх мар і жаданняў, пазнавалі адно аднаго, заўсёды саступалі і любілі.



# СВЯТАРСКІЯ ПАСВЯЧЭННІ

## У Жодзіне Апостальскі Нунцый пасвяціў новага святара

**Паўсюдны Касцёл 2 лютага адзначае свята Ахвяравання Пана. У гэты ж дзень парафія Маці Божай Фацімскай у Жодзіне перажывала яшчэ адну важную для касцёла ў Беларусі падзею – святарскае пасвячэнне дыякана Віталя Даніловіча MIC.**

**с. Святлана Грэйць**, *тэкст; Дарык Астасевіч, фота*

Нездарма дзве названыя падзеі вельмі падобныя: па традыцыі ў гэты дзень мы ўспамінаем, як бацькі Езуса – Юзаф і Марыя – прынеслі Яго ў святыню, каб ахвяраваць Богу. І дыякан Віталь адказвае "так" на запрашэнне Хрыста ісці за Ім па дарозе святарскага паклікання.

Урачыстая Імша пачалася а 12 гадзіне. На пачатку літургіі кс. Міхаіл Цвячкоўскі, пробашч парафіі ў Жодзіне, адзначыў, што ў гісторыі жодзінскага касцёла такая падзея адбываецца першы раз. Ён таксама прывітаў гасцей: арцыбіскупа Клаўдыё Гуджэроці, Апостальскага Нунцыя ў Беларусі, які ўзначаліў урачыстую літургію, а таксама ўдзяліў сакрамант святарскіх пасвячэнняў, а. Паўла Наўмовіча – правінцыяла польскай правінцыі Ордэна айцоў-марыянаў, кс. Філіпа Чампанэлі – сакратара Апостальскай Нунцыятуры ў Беларусі, Архімандрыта, візітатара Апостальскага для грэкакаталікоў у Беларусі а. Сяргея Гаека, а. Андрэя Ерамінка – кіраўніка семінарыйнага дома і супер'ёра семінарыстаў, а. Тадэвуша Бычкоўскага – эканома правінцыі, а таксама іншых прысутных святароў, сясцёр-эўхарыстак, бацькоў і родных, сяброў і гасцей, якія прыехалі з розных парафій.

Пасля Літургіі Божага Слова гамілію да сабраных святароў, сясцёр законных і вернікаў скіраваў арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці. Ён адзначыў, што для прадстаўніка Папы ў Беларусі вялікая радасць перажыць такую падзею.

"Як Марыя і Юзаф ахвяравалі Хрыста ў святыні, так і супольнасць айцоў-марыянаў ахвяроўвае жыццё дыякана Віталя. Сёння ён стане святаром – чалавекам святыні, але не той, у якую Хрыстус прыходзіць і хутка выходзіць з яе, а той, дзе Езус Сам святыня". З пастацціў Марыі Нунцый параўноўвае жыццё будучага новапрэзбітара: "Як Марыі меч болю праткне душу, такая будзе цана, якую ты заплаціш, каб быць святаром. Бо святар – гэта той, хто з'яўляецца сведкам супрацьву, але Касцёл любіць цябе і просіць Духа Святога, каб радыкальна змяніў тваё жыццё, а супольнасць дапаможа несці табе крыж".



Пасля гаміліі адбыўся момант удзялення сакрамант святарства. І ў далейшай цэлебрацыі св. Імшы прыняў удзел а. Віталь Даніловіч.

Напрыканцы літургіі а. Павел Наўмовіч – правінцыял польскай правінцыі Ордэна айцоў-марыянаў – падзякаваў арцыбіскупу Клаўдыё Гуджэроці за ўдзелены сакрамант святарства і за ўзначаленую Эўхарыстыю.

У сваю чаргу новапрэзбітар таксама скіраваў словы падзякі перш за ўсё Усемагутнаму Богу за дар паклікання, Апостальскаму Нунцыю – за ўдзелены сакрамант святарства, а. Паўлу Наўмовічу, выхавальнікам у семінарыі, бацькам, сябрам, гасцям і ўсім прысутным за тое, што перажывалі вельмі важныя хвіліны разам з ім.

**Дзякуем Пану Богу за новага святара!**

# Што такое “сталы жаль”?

**15 лютага – успамін бл. Кс. Міхала Сапоцькі (1888-1975) – апостала Божай Міласэрнасці.**

**Кс. Міхал Сапоцька быў духоўным кіраўніком св. сястры Фаўстыны Кавальскай. Ён дапамог святой распазнаць тое, чаго прагнуў Езус, і рэалізаваць гэта ў жыцці. Дзякуючы яго намаганням паўстаў абраз Езуса Міласэрнага з надпісам “Езу, давяраю Табе!”. Ён друкаваў абразкі Езуса Міласэрнага з Вяночкам да Божай Міласэрнасці яшчэ пры жыцці с.Фаўстыны. Кс. Міхал з’яўляецца аўтарам Літаніі да Божай Міласэрнасці. Ён рабіў усё магчымае для таго, каб было ўстаноўлена Свята Божай Міласэрнасці ў першую нядзелю пасля Вялікадня, таксама з’яўляецца заснавальнікам новай манаскай Супольнасці Сясцёр, якую жадаў Езус (пар. Дз. 436). Мэтай Супольнасці Сясцёр Езуса Міласэрнага ёсць праслаўленне, абвяшчэнне і выпрошванне Божай Міласэрнасці.**

**Кс. Міхал з’яўляецца для ўсяго Касцёла прыкладам нязломнай веры, даверу Богу Міласэрнаму, пакоры, вытрыманасці падчас шматлікіх цярпенняў.**

**Прапаную на пачатак Вялікага Посту артыкул пра “сталы жаль”, які напісаў кс. Міхал Сапоцька.**

■ **с. Наталля Емяльянава ZSJM**, *тэкст*



## Разважанне XXVII Пра сталы жаль за грахі

Што такое “сталы жаль”? Гэта стан душы, праз які яна застаецца пастаянна ў стане жалю за грахі. Гэтак жа блудны сын з прыпавесці Збаўцы хоць і бачыў радасць айца з прычыны яго вяртання і разумеў, што айцец усё яму прабачыў, аднак жа заўсёды заставаўся ў такім стане, які адпавядаў яго словам: *“Ойча, я зграшыў супраць неба і перад табою і ўжо не варты называцца тваім сынам”* (Лк 15, 21). Не можам нават сабе ўявіць, каб ён не меў жалю за грахі ў сваім сэрцы падчас урачыстаці, падрыхтаванай для яго. Нават калі потым гэты жаль зменшыўся, аднак жа ніколі ўжо не знік цалкам, хоць сын заняў у сям’і сваё ранейшае месца.

Такім жа павінна быць і нашае настаўленне душы, якая пакрыўдзіла Бога, пагардзіла Яго дасканаласцямі і прычынілася да цярпенняў Збаўцы. Калі будзе прабываць у такім стане, немагчыма, каб яшчэ раз упала ў свядомыя грахі. (...)

“Сталы жаль” сэрца не супярэчыць ні даверу і духоўнай радасці, ні любові і ўпадабанню Богу. Наадварот, усе святыя, поўныя жалю, палалі незвычайнай любоўю да Бога і былі напоўненыя вялікай унутранай радасцю, бо дайшлі да незвычайнага паяднання з Богам.

Жаль за грахі не перашкаджае даверу і радасці, але, наадварот, з’яўляецца моцным падмуркам для іх. Якая галоўная крыніца жалю за грахі? Гэта ўсведамленне таго, што пакрыўдзілі Бога, бясконца добрага. (...) Жаль пабуджае вялікадушнасць і любоў, каб узнагародзіць за мінулыя памылкі, за больш вялікую руплівасць і высакародны энтузіязм. Ён здзяйсняе, што душа ўжо не давярае сабе, а толькі Збаўцу, і таму ёсць чуйная на дзеянне Духа Святога. (...)

**“Сталы жаль” у сэрцы схіляе душу да глыбокай пакоры і прыняцця Божай волі.**

“Сталы жаль” у сэрцы схіляе душу да глыбокай пакоры і прыняцця Божай волі. (...) Ён з’яўляецца крыніцай любові да бліжняга. Душа, поўная жалю, бачыць свае памылкі і слабасці, не асуджае бліжняга, але з разуменнем ставіцца да яго заганаў. Калі мы сурова асуджаем бліжніх і з лёгкасцю гаворым пра іх памылкі, мы не маем сапраўднага жалю ў сэрцы.

Сапраўдны жаль ажыўляе вялікадушнасць, пад-трымлівае любоў і штораз глыбей ачышчае душу, каб магла з’яднацца з Панам; умацоўвае давер у міласэрнасць Бога. Які тым, хто пакутае, прабачае і дае ўнутраны супакой, незямную радасць і аддаляе смутак і прыгнечанасць.

**Самым каштоўным плёнам жалю ёсць умацаванне душы ў барацьбе са спакусамі.**

Самым каштоўным плёнам жалю ёсць умацаванне душы ў барацьбе са спакусамі. (...) У гэтай барацьбе найперш патрэбна чуванне, а ў гэтым дапамагае жаль у сэрцы. Душа, ажыўленая гэтым святым пачуццём, вельмі ўважлівая, ведае з уласнага досведу свае слабасці і дрыжыць перад тым, што яе выстаўляе на небяспеку новага падзення.

Пад уплывам гэтай боязі, ажыўленай любоўю, душа стараецца пазбягаць усяго, што магло б яе аддаліць ад Бога, Які ўдзень і ўначы глядзіць на яе. Не давярае сабе, таму ўцякае да Хрыста і моліцца з жалем у сэрцы. Такая пастава ўмацоўвае нас і адганяе ворага. (...)

Каб мець “сталы жаль”, трэба прасіць аб ім Бога. Ён што каштоўны дар, які можна толькі вымаліць.(...) Акрамя малітвы, “сталы жаль” абуджае памяць пра цярпенні Збаўцы і Яго любай Матулі.

Так як Пётр пачуў жаль за грахі пад уплывам позірку Езуса, так і мы адчуем жаль падчас разважанняў над Яго мукай. Гэты позірк Укрыжаванага пранікае аж да глыбіні душы і напаўняе яе жалем, бо дае разуменне, што грэх быў прычынай усіх цярпенняў Найміласэрнейшага Збаўцы.

Калі паглядзім у мінулае, то ўбачым мноства нашых правінаў. Прыпомнім тады: колькі разоў грэшнік праз жаль атрымлівае прабачэнне, столькі Анёлы ў небе праслаўляюць бясконцую Божую Міласэрнасць.

*(ks. Michał Sopoćko. Miłosierdzie Jego na wieki. Rozważania o Bożym Miłosierdziu. Częstochowa, 2005)*

# Плоднасць і бясплоднасць у Бібліі

**Уважлівы чытач Бібліі адразу заўважыць, што тэма плоднасці і ўсяго, што звязана з размнажэннем, з’яўляецца адной з галоўных у Кнізе кніг. Ужо першыя словы Бога, звернутыя да чалавека, непасрэдна датычацца плоднасці: «пладзіцеся і размнажайцеся, напаўняйце зямлю і валодайце ёю». Бог хоча, каб нас было шмат і каб мы карысталіся пладамі зямлі.**

■ **Уладзіслаў Валаховіч**, *www.catholic.by*

Ужо ў самым пачатку стварэння таямнічым чынам аказваюцца звязанымі плоднасць чалавека і ўрадлівасць зямлі.

**Усе жонкі патрыярхаў, ад якіх паўстаў народ абраны, – Сара, Рэбэка, Рахіль – пакутавалі ад бясплоднасці.**

Першае, што церпіць у выніку грэхападзення, – гэта плоднасць. Пасля граху Адама і Евы адбываецца парушэнне сужэнскіх адносін, з гэтага часу жанчына павінна ў болях нараджаць дзяцей, а зямля будзе прыносіць пустазелле замест добрага плёну. Але нават такая знішчаная плоднасць становіцца прадметам зайздрасці сатаны. З гэтага моманту ён будзе весці барацьбу з патомствам жонкі – «яно сатрэ табе галаву, а ты сатрэш яго пяту».

Чаму д’ябал такі агрэсіўны да патомкаў Евы? Хутчэй за ўсё, справа ў тым, што раней ці пазней павінен будзе нарадзіцца далёкі Патомак Адама і Евы, Езус Хрыстус, таму галоўная задача д’ябла – каб у людзей наогул не было патомкаў.

Цікава прасачыць на старонках Бібліі, як тэма бясплоднасці з’яўляецца ва ўсіх ключавых момантах гісторыі збаўлення. Усе жонкі патрыярхаў, ад якіх паўстаў народ абраны, – Сара, Рэбэка, Рахіль – пакутавалі ад бясплоднасці. Яны ўспрымалі яе як цяжкае выпрабаванне і імкнуліся вырашыць гэтую праблему па-рознаму, прычым не заўсёды згодна з Божай воляй. Сара – пры дапамозе сурагатнага мацярынства, прапанаваўшы Абрагаму сваю наложніцу ў якасці жонкі. Вынік – нараджэнне Ізмаіла, продка ўсіх мусульман. І толькі потым, усвядоміўшы памылку, Сара і Абрагам дачакаліся нараджэння свайго сына, хоць усе законы прыроды былі супраць гэтага.

Рахіль, акрамя таго, што таксама звярталася да паслуг сурагатнай маці, яшчэ і загадкавым чынам прысядала на ідалаў, выкрадзеных у свайго бацькі, што магло быць нейкім магічным рытуалам, звязаным з плоднасцю. Вынік – Рахіль памірае ў родах.



А вось Рэбэка з Ісаакам маліліся аб аздараўленні ад бясплоддзя – і ў іх нарадзіліся адразу двайняты.

Акрамя жонак патрыярхаў, ёсць і іншыя біблейскія прыклады. Доўга малілася аб аздараўленні ад бясплоднасці маці Самсона, а таксама маці прарока Самуіла. Гэты прарок пасля адыграў ключавую ролю ва ўсталяванні ў Ізраілі манархіі: ён памазаў на царства цара Давіда. Прабабуля Давіда, Рут, таксама больш за 10 гадоў была бясплоднай.

У Новым Запавеце сказана, што на бясплоднасць пакутавалі Захарыя і Альжбета – бацькі Яна Хрысціцеля. І, як кажа паданне, нават дзядуля і бабуля Езуса Хрыста – Яўхім і Ганна – не пазбеглі праблем з плоднасцю, нарадзіўшы Маці Божую толькі на схіле гадоў.

Такім чынам, у Бібліі бясплоднасць прадстаўлена як вельмі сур’ёзнае няшчасце, з якім ніхто не хацеў сутыкнуцца, бо яно ўспрымалася як праклён. Тым не менш, з тэкстаў Святога Пісання вынікае, што бясплоднасць – гэта, у першую чаргу, праблема духоўная, у пэўным сэнсе задача, якую неабходна вырашыць, перашкода, якую варта пераадолець, нягледзячы на ўсе інтрыгі злога духа. Біблія паказвае нам, што толькі Езус Хрыстус можа паставіць кропку ў пакутах бясплодных пар. Толькі Ён праз сваё цудоўнае зачацце і нараджэнне даказвае, што для Бога на самай справе няма нічога немагчымага.

Але калі бясплоднасць – гэта праблема, якая прыходзіць звонку, то свядомае адмаўленне ад нараджэння дзяцей заўсёды ёсць асабістае рашэнне чалавека, і таму яно з’яўляецца асабліва цяжкім грахом. Такім быў, скажам, грэх Анана, які з’явіўся прычынай яго смерці. Але самым яркім прыкладам адмаўлення ад нараджэння дзяцей выступае садомскі грэх, які шмат разоў сурова асуджаецца ў Бібліі. Гомасексуалізм па сутнасці сваёй з’яўляецца поўным адмаўленнем ад Божага плану пра чалавека, які выяўляецца ў дары плоднасці. Прычым гэты грэх мае атрутныя ўласцівасці для навакольнага свету, што яскрава праяўляецца ва ўчынку дачок Лота.

**Бог хоча, каб людзей было шмат.**

Яны паходзяць з праведнай сям’і, якая жыла ў Садоме да яго знішчэння і не прымала граху яго жыхароў. Тым не менш, адразу ж пасля таго, як агонь з неба ўпаў на Садом і Гамору, яны ўступаюць па чарзе ў кровазмяшальную сувязь са сваім бацькам, даючы пачатак язычніцкім народам, якія потым былі прыгнятальнікамі ізраільцян.

Бог дае чалавеку дар плоднасці. Гэта вялікая таямніца, якую мы пакуль што да канца ўсвядоміць не можам, бо зразумела толькі адно: Бог хоча, каб людзей было шмат. Менавіта таму ў Бібліі ідэал жанчыны – гэта жонка, маці, якая параўноўваецца з пладавітай вінаграднай лазой. Плод улоння – дзеці – заўсёды прадстаўлены як Божае бласлаўленне. І чым больш гэтых пладоў, тым большае бласлаўленне для дома. Ды і само стварэнне дома ў Бібліі – гэта не будаванне і не купля нерухомасці, як мы зараз прызвычаіліся думаць, а менавіта нараджэнне дзяцей.

Не хочацца верыць, але менавіта наша цывілізацыя, якая вырасла на высокіх біблійных ідэалах, паставіла на паток поўную адмову ад нараджэння дзяцей, узвёўшы ў ранг асноўных правоў чалавека жудаснае язычніцкае права на дзетазабойства – аборт, а таксама права на планаванне сям’і – кантрацэпцыю. Але, як паказвае нам Біблія, па сутнасці сваёй і аборт, і кантрацэпцыя – атрутныя плады аднаго дрэва, кажучы біблійнай мовай, дрэва смерці. Сілкавацца ад гэтага дрэва і пры гэтым заставацца хрысціянінам або проста чалавекам добрай волі немагчыма. Трэба выбіраць альбо тое, альбо іншае. Як кажа Кніга Другазаконня, *«Я паклаў перад вамі жыццё і смерць, бласлаўленне і пракляцце. Таму выберы жыццё, каб жыў ты і патомства тваё»* (Дрг. 30, 19).

### “Вузельчыкі” на памяць

*Жыццё пражыць – не поле перайсці.*
*Вядома гэта ўсім спрадвеку.*
*Жыццё пражыць – душу не загубіць.*
*Такая вось задача чалавеку.*
***
*Што смерць фізічная?*
*Імгненне ў вечнасці быцця.*
*Ды чалавек тады ўмірае,*
*Калі губляе сэнс жыцця.*
***
*Як часта сябе заганяем у кут*
*Мноствам штодзённых праблем.*
*Прычыняем адно аднаму шмат пакут.*
*Ці варты гэтага тлен?*
***
*Целу патрэбны хлеб штодзённы.*
*Душы патрэбная малітва.*
*Каб хлеб здабыць –*
*Працаваць трэба плённа.*
*Каб жыць –*
*Душы нельга ляніцца.*
***
*Шчасце быцця ў кожным імгненні:*
*І ў летнім ранку, і ў дні асеннім.*
*У першым крыку, апошнім дыханні*
*Заключана мудрасць існавання.*
***
*Хто “соль зямлі”?*
*Ды проста людзі,*
*Што за сабой вядуць другіх.*
*Без іх жыццё “нясмачным” будзе.*
*Загінуць душы многія без іх.*
***
*Лёс шчаслівых – кахаць.*
*Крыўды ў сэрцы сваім не хаваць,*
*Не знайшоўшы ў адказ разуменне.*
*Бо жыццё – гэта толькі імгненне,*
*А каханню ў вечнасць сягаць.*

***Алена Пажога***

# Мой тата больш не п’е




**Напэўна, у кожнага дзіцяці існуюць свае страхі: боязь цемры, монстраў, ведзьмакоў і інш. Маім сапраўдным страхам у дзяцінстве былі п’яныя бацькі. Новай бутэлькі гарэлкі ў нашай хаце я баялася больш, чым чорта ці якой вядзьмаркі.**

Дакладна не магу ўспомніць, калі мае бацькі пачалі піць. Здаецца, неяк паступова яны браліся за бутэльку, спачатку тата, потым маці. Раз за разам усё больш і далей, пакуль у рэшце рэшт гэта не стала сэнсам іх жыцця. Мой брат і я сталі ім не патрэбныя. Яны жылі быццам бы не заўважаючы нас. У іх было сваё жыццё, у нас сваё…

**Вяртаючыся дахаты, ненавідзела ўсё, што было навокал: сцены дома, мэблю, бацькоў…**

У школе я часта хлусіла сваім аднакласнікам і сябрам, што жыву ў добрай багатай сям’і, маю шмат цікавых гульняў і рэчаў. Я хацела быць падобнай да ўсіх, а часам і лепшай за іх. Выдумляла сабе свой сусвет, у якім жыла па-за сценамі свайго дома, а вяртаючыся дахаты, ненавідзела ўсё, што было навокал: сцены дома, мэблю, бацькоў…

Аднойчы, калі ўжо надакучыла хлусіць усім, хацелася нейкай падтрымкі і паразумення, я звярнулася да школьнага псіхолага са сваёй праблемай. Прасядзеўшы са мной некалькі гадзін, зрабіўшы нейкія псіхалагічныя тэсты, Ала Вітальеўна сказала пра мяне маёй настаўніцы: “Нездаровая дзіцячая фантазія. Юля шмат хлусіць...” Так памерла мая надзея на дапамогу і падтрымку, а разам з тым знік і давер да людзей.

Сітуацыя з залежнасцю маіх бацькоў станавілася ўсё горшай. Калі я вярталася дадому, яны былі ўжо п’яныя, а часам і непрытомныя. Бацька крычаў, што яму дрэнна, баліць сэрца, прасіў выклікаць хуткую дапамогу. Гэта адбывалася настолькі часта і сістэматычна, што я ўжо дасканала ведала ўсю працэдуру, якую павінны былі правесці лекары.

Пасля надышоў час маёй абыякавасці. Мне проста стала ўсё роўна, што есці, што апранаць, дзе спаць. А галоўнае – усё роўна, што будзе з маімі бацькамі і пад якім плотам яны заваляцца і памруць. Вырашыла сысці здому. Жыла нейкі час у сваёй сяброўкі. Моцна захварэла і трапіла ў шпіталь. Лекары папрасілі патэлефанаваць бацькам: мне патрэбныя былі лекі. Памятаю, што бацька прыйшоў да мяне толькі праз тры дні пасля тэлефоннага званка. На пытанне, чаму так доўга, адказаў, што раней не мог. А я ведала: быў “атхадняк”. Тата пакінуў мне лекі, грошы і больш у мяне не з’явіўся ні разу...

**Ён падышоў да мяне, апусціўся на калені і пачаў моцна плакаць і прасіць прабачэння.**

Праляжаўшы месяц у шпіталі, я вярнулася дадому. У хаце было чыста, а ў кухні чакаў прыгатаваны абед. Я была вельмі здзіўленая. Раптам пад’ехала машына, выйшаў тата… І зноў жа, на маё здзіўленне, ён быў цвярозы! Ён падышоў да мяне, апусціўся на калені і пачаў моцна плакаць і прасіць прабачэння. Яшчэ тады я не разумела, што гэты момант быў пачаткам яго выздараўлення і пачаткам нашага шчаслівага жыцця. Да канца я не разумела, што адбываецца, але яго слёзы мяне вельмі моцна кранулі… Гэта былі слёзы яго душы, мужчынскія слёзы…

Пазней тата расказаў мне, што адзін з яго знаёмых звазіў яго на рэкалекцыі ў Браслаў, дзе ў той час збіралася група Ананімных алкаголікаў. Менавіта там мой бацька ўпершыню адчуў, што ён хворы, і ўпершыню прызнаў сябе алкаголікам. Пасля былі доўгія месяцы рэабілітацыі, шмат цяжкасцей, фактычна ён распачынаў жыццё нанова.

Восьўжо 5 гадоў, як мой тата не п’е, з’яўляецца актыўным удзельнікам руху Ананімных алкаголікаў, дапамагае іншым усвядоміць праблему алкагольнай залежнасці і пачаць з ёй змагацца. Бацька не толькі перастаў піць, але і навярнуўся да Бога, прыйшоў у Касцёл. Зараз для мяне ён самы блізкі і дарагі чалавек, я вельмі шчаслівая, што яго маю. А гісторыя майго дзяцінства навучыла мяне цаніць усё сапраўднае ў жыцці, бо, як кажуць, “усё найлепшае атрымліваеш толькі коштам вялікіх пакут...”

*Тэкст сведчання запісала*
***Вікторыя Колзун***

* Імёны ў артыкуле зменены

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**10 лютага 2013 г. Лк 5, 1–11**

Людзі з цікавасцю слухаюць Божае слова. Езус загадвае Пятру закінуць сеткі, і Пётр, нягледзячы на тое , што за ўсё ноч яны нічога не злавілі, робіць гэта. Бо не лічыць, што ўсё ведае і ўсё і да канца разумее. Бо ў сваёй працы пакідае месца Богу. Цяжкая праца рыбака навучыла яго, што ёсць рэчы, якіх ён не разумее, нават розум, вопыт, здольнасці не дапамагаюць. Верыць, што Бог можа дзейнічаць як хоча і дзе хоча. Злоўленая рыба для Пятра – знак Божай хвалы, якая аб’явілася ў яго жыцці. Гэта падзея прыводзіць яго да ўсведамлення сваёй грэшнасці. Не толькі недасканаласці, але і віны. На падрыхтаванае такім чынам сэрца, як на добрую глебу, Езус кідае зерне паклікання. Пётр ахвотна адгукаецца. Ён пакідае ўсё і ідзе за Езусам.

*– Ці не з’яўляюцца для мяне вера і Божая навука толькі цікавым захапленнем?*

*– Ці сапраўды веру Слову Езуса?*

*– Ці гатовы ўзяцца за новыя справы, калі пакліча Езус?*

*– Ці давяраю Яго Слову?*

*– А можа, думаю, што ўсё спазнаў і ўсё ведаю?*

*– Ці ўсведамляю, што Бог існуе ў таямніцы і мудрасці, якая перасягае маё разуменне?*

*– Ці згаджаюся з думкай, што Ён лепш разбіраецца нават у справах, у якіх я лічу сябе спецыялістам?*

*– Ці іду за Божым натхненнем, каб здзейсніць штосьці, згоднае з Яго воляй?*

*– Ці раблю так у вялікіх і малых справах?*

*– Ці заўважаю плённасць Божага Слова ўва мне і вакол мяне?*

*– Ці дзякую Богу за гэта?*

*– Ці бачу сваю недасканаласць і грэшнасць?*

*– Ці хачу звязаць сваё жыццё з Езусам і Яго навукай?*

**17 лютага 2013 г. Лк 4, 1–13**

Езус, Які прыйшоў на зямлю, каб выканаць Божую справу, сустракаецца з супрацівам шатана. Д’ябал атакуе Езуса зброяй спакусы. Езус адбівае атакі мячом Божага Слова. Першая атака шатана – гэта спакуса паставіць сваю волю над воляй Айца, другая – звесці місію Езуса толькі да зямнога вымярэння. Трэцяя – прымусіць засумнявацца ў вернасці Айца і пачаць яе правяраць. Езус – узор для тых, хто на дарозе выканання Божай волі змагаецца з д’ябальскімі спакусамі.

*– Ці ведаю, што д’ябал атакуе мяне тады, калі я хачу жыць згодна з Божай воляй?*

*– Ці заўважаю спрыт і кемлівасць шатана ў маім жыцці?*

*– Ці не паддаюся спакусе паставіць сваю волю над воляй Айца?*

*– Ці не паддаюся спакусе жыць толькі зямнымі справамі?*

*– А можа, сумняваюся ў любові Айца?*

*– Ці не сталі гэтыя спакусы маёй (г. зн. д’ябальскай) філасофіяй жыцця?*

*– Ці шукаю ўзмацнення свайго духу ў Божым слове?*

*– Ці разважаю і праслаўляю мудрасць Божага Слова?*

*– Ці шукаю ў ім умацавання ў выкананні волі Айца?*

*– Ці ўзмацняю сваё духоўнае жыццё і давер да Айца Божым Словам?*

*– Каторая з маіх спраў найбольш патрабуе маёй працы і лекавання Божай ласкай падчас Вялікага посту?*

*– Якія велікапосныя пастановы я прыняў, і чаму такія?*

**24 лютага 2013 г. Лк 9, 28б – 36**

Малітва – гэта прастора, у якой Езус прамаўляе да сваіх вучняў. У ёй (прасторы) чалавек можа навучыцца найважнейшым праўдам жыцця. Езус аб’явіўся сваім вучням у Боскай хвале. Айцец пацвярджае аўтарытэт Сына і заклікае іх слухаць Яго і быць Яму паслухмянымі. Такім чынам Езус узмацняе Сваіх вучняў перад выпрабаваннямі, якія надыходзяць. Неўзабаве ўбачаць Яго прыніжаным на крыжы…

*– Ці малюся?*

*– Ці прыслухоўваюся падчас малітвы да голасу Бога?*

*– Ці разважаю і ці стараюся зразумець Божыя справы, якія адбываюцца ўва мне?*

*– Ці маю для Бога час малітвы, у які Ён можа мяне ўзмацніць і паказаць Сваю хвалу?*

*– Можа, і я, як Пётр, які не ведае, што гаворыць, і толькі потым разумее сэнс таго, у чым удзельнічае?*

*– Ці стараюся жыць паводле таго, што пачуў і зразумеў падчас малітвы?*

*– Ці слухаю і ці паслухмяны Езусу – Божаму Сыну?*

*– Ці малюся ў цяжкія хвіліны?*

*– Ці ўспамінаю пра тыя дары і ласкі, якія ўжо атрымаў на малітве? Ці карыстаюся імі і ці развіваю іх?*

**3 сакавіка 2013 г. Лк 13, 1–9**

Многія з нас заўважаюць грахі іншых. Жывуць перакананнем, што грэшнікаў напаткае заслужаная кара. Думаюць, што самі намнога лепшыя. Езус заклікае нас сур’ёзна задумацца над сваім сумленнем. Навяртання патрабуе кожны з нас. Прытча пра дрэва, якое не прыносіць плоду, гэта прытча пра Божую цярплівасць. Бог дае нам час, каб мы пачалі жыць згодна з правіламі Божага валадарства. Гэты дар трэба выкарыстоўваць, а не марнаваць. Час Вялікага посту – гэта час для навяртання. Бог хоча, каб мы прыносілі плод. Вера і любоў – гэта дынамічная рэчаіснасць. І недастаткова таго, што я – лепшы за іншых. Трэба пытацца пра плады сваёй веры, сваёй любові. І пра тое, ці згодны яны з Божай воляй.

*– Ці тое, што вакол мяне грэшнікі, горшыя ад мяне, не закалыхвае маё сумленне?*

*– Ці памятаю пра пакаранне для тых, хто не сур’ёзна ставіцца да Божай волі?*

*– Ці магу здарова ацаніць сваё сумленне?*

*– Ці добра карыстаюся дадзеным мне Богам часам?*

*– Што мяркую зрабіць з тым жыццём, якое мне яшчэ засталося?*

*– Як збіраюся пражыць той адрэзак Вялікага посту, які перада мной?*

*– Якіх пладоў чакае ад мяне Езус?*

*– Што раблю, каб іх (плады) прынесці?*

Рубрыку вядзе **кс. Павел Кнурэк**

# Каталічка з «некаталіцкім» імем

**Сустракаючы дзесьці ў Беларусі жанчыну па імені Ядзвіга, Тэрэса або Агнешка, адразу здагадваешся – каталічка. Ужо цяжэй вызначыць канфесійную прыналежнасць, калі яе клічуць Ганнай, Марыяй або Аленай. Гэтыя імёны ёсць як у каталіцкай, так і ў праваслаўнай традыцыі.**

■ **кс. Андрэй Рылка**, *www.catholic.by*

Да нядаўняга часу не было праблем з вызначэннем канфесійнай прыналежнасці жанчын з імем Таццяна, Вольга або Святлана, якія асацыяваліся з усходняй хрысціянскай традыцыяй. Аднак дастаткова зазірнуць у сучасныя касцельныя кнігі хростаў або проста спытацца ў каталічак, якія імёны яны носяць, каб пераканацца, што ў зараз у Беларусі цяжка вызначыць канфесійную прыналежнасць асобы паводле яе імя.

Сярод прадстаўнікоў розных традыцый не сціхаюць дыскусіі і мары пра даўнейшыя часы, калі бацькі імкнуліся падкрэсліць канфе-сійную прыналежнасць, надаючы дзіцяці імя, якога няма ў альтэрнатыўнай традыцыі. У сувязі з гэтым у Беларусі ўзнікалі шматлікія парадоксы. Якіясьці «праваслаўныя» імёны браліся са старадаўняй каталіцкай мінуўшчыны. І наадварот, «каталіцкія» імёны мелі далёка не каталіцкае паходжанне.

Прыкладам такога парадоксу з'яўляецца імя святой, якая ўзгадваецца ў календары Каталіцкага Касцёла 12 студзеня. У Беларусі гэтае імя асацыюецца адназначна з усходняй (праваслаўнай, рускай) хрысціянскай традыцыяй. Аднак карані як імя, так і самой святой звязаны непасрэдна з сэрцам каталіцкага свету – Рымам. Імя святой – Таццяна.



Яна нарадзілася ў Рыме ў вельмі багатай і знатнай сям'і. Бацька быў рымскім консулам, вяльможам. Нягледзячы на тое, што яе бацька быў хрысціянінам і ў гэтай веры выхаваў дачку, сваю рэлігійную прыналежнасць ён хаваў. За гэта можна было страціць не толькі кар'еру, але і жыццё. Можна толькі здагадвацца, у якой узнёслай атмасферы расла Таццяна, што яе не вабіла ні раскоша рымскіх багаццяў, ні лёс вяльможаў. Яна захаплялася ідэаламі хрысціянскага жыцця, без рэшты аддадзенага Богу і бліжняму. Доказам цнатлівасці і руплівасці Таццяны стала тое, што яна была абрана ў шэрагі дыяканіс. Так у тыя часы называлі жанчын, якія служылі ў Касцёле, дбаючы аб справах міласэрнасці, дапамагаючы хворым і нямоглым, клапоцячыся аб парадку ў святынях.

**Яна захаплялася ідэаламі хрысціянскага жыцця, без рэшты аддадзенага Богу і бліжняму.**

Падчас адной з аблаваў на хрысціян у 226 г. асабліва жорстка вышуквалі тых асобаў, якія маглі аказаць значны ўплыў на грамадскую свядомасць: вяльможаў, багатых, грамадскіх дзеячаў. Так пад пераслед трапіў рымскі чыноўнік са сваёй дачкой Таццянай. Перад абліччам смерці ён публічна прызнаўся ў сваёй веры і быў за гэта закатаваны. Мучаніцкая смерць напаткала і Таццяну. Паводле шматлікіх паданняў, са смерцю св. Таццяны былі звязаны цуды. Разбушавалася прыродная стыхія, ад якой абрынуліся язычніцкія святыні Апалона і Дыяны. Менавіта ў гэтых месцах з найбольшай лютасцю катавалі хрысціян. Калі ж дзяўчыну кінулі на пажыранне львам, то звяры рахмана ляглі ля яе ног. Тое самае зрабілі і жаўнеры. Урэшце, пасля шэрагу няўдалых спробаў забойства кат засек яе мячом.

**Гэтая рымская святая паходзіць са знакамітага лацінскага роду Тацыяў (Tatius).**

Гэтая рымская святая паходзіць са знакамітага лацінскага роду Тацыяў (Tatius). Яна малавядомая ў лацінскім Касцёле і вельмі шанаваная ў нелацінскай і далёкай ад Рыма Царкве. Парадокс скрыжавання традыцый у хрысціянстве. Пазнанне гэтых парадоксаў адкрывае новыя гарызонты на шляху прымірэння канфесій і традыцый. Аказваецца, імёны святых могуць быць не прычынай падзелаў, але яднання. І знакаміты прыклад гэтага – імя святой Таццяны Рымскай.

## Каля крыжа

*Вось стаю каля крыжа,*
*У святыні Божай.*
*Узношу позірк на Хрыста,*
*Які раны зносіць.*

*З болем у сэрцы я гляджу,*
*Ціха разважаю:*
*Як пакутуе Хрыстос,*
*За свой люд абраны.*

*Церпіць Хрыстус ад граху,*
*Што ад нас паходзіць.*
*Боль пранізае ўсе нутро,*
*Як жа ен выносіць?*

*А анелы побач з ім,*
*У смутку ўсе чуваюць.*
*Бо сам Бог на крыжы тым,*
*У Хрысце канае.*

*Маці Божую наскрозь,*
*Гора прабівае.*
*Сэрца зранена яе,*
*Ледзьве ўжо трывае.*

***Ларыса Івашына***

# Запрашаем на конкурс!

**Дарагія сябры!**

**"Каталіцкі Веснік" зноў запрашае ўсіх ахвотных прыняць удзел у конкурсе. Спаборніцтва будзе праходзіць на сайце catholicnews.by – электроннай версіі газеты. Конкурс называецца "Жыві Добрай Весткай!" Яго ідэя – расказаць і паказаць людзям Евангелле – Добрую Вестку. Конкурс будзе адбывацца ў трох намінацыях: найлепшае відэа, найлепшы матыватар і найлепшы тэкст.**

**Задзейнічайце сваю фантазію, будзьце крэатыўнымі!** Відэа можна здымаць любой камерай, нават звычайным мабільным тэлефонам. Гэта можа быць зняты флэшмоб (напрыклад, у школе), нейкая пантаміма, рэальны выпадак з жыцця ці штосьці іншае. Ствараючы матыватар, таксама можна карыстацца любымі праграмамі і здымкамі. Што тычыцца тэкстаў, то яны могуць быць вершамі, апавяданнямі ці ўласнымі сведчаннямі. Галоўнае, у вашых працах павінна быць заахвочванне да Евангелля, да Хрыстовага навучання. Раскажыце людзям пра Добрую Вестку! Вядома, ніякага плагіяту. Толькі свая праца. Цяпер пра ўмовы.

**1. Конкурс пачынаецца 18 лютага.** Гэта значыць, 18 лютага мы пачнём змяшчаць вашыя працы на сайце catholicnews.by па меры іх паступлення. Дасылаць працы можна ад хвіліны, калі Вы прачыталі гэты тэкст, да 10 сакавіка ўключна.

**2. Як дасылаць?** Сваё відэа працягласцю не больш за 5 хвілін трэба змясціць на сэрвісе youtube.com і даслаць нам у рэдакцыю спасылку на гэтае відэа з назвай "Конкурс". Матыватары і тэксты трэба дасылаць проста на скрынку рэдакцыі з пазнакай "Конкурс".

**3. З 11 сакавіка пачнецца галасаванне па працах.** Галасаваць можна будзе на працу тыдня на сайце catholicnews.by, да 17 сакавіка ўключна. Улічваючы меркаванне карыстальнікаў, рэдакцыя вызначыць пераможцаў. Колькасць месцаў будзе залежыць ад колькасці ўдзельнікаў. **Мы гарантуем добрыя прызы пераможцам!**

**4. Усе працы павінны быць дасланыя толькі электронным шляхам на адрас:** mail@catholinews.by. Кожны ліст, дасланы на конкурс, павінен мець пазнаку "Конкурс". У электронным лісце, апрача працы, неабходна напісаць сваё імя і прозвішча, паштовы адрас і нумар мабільнага тэлефона.

**Усім удзельнікам жадаем крэатыўнасці і мноства ідэй! Станьце апосталамі 21 стагоддзя! Раскажыце людзям пра Хрыста і Яго Евангелле! Жывіце Добрай Весткай!**

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***



## Торт закусачны "Напалеон"

1. Кабачок натаркаваць на буйной тарцы, дадаць 2 сырыя яйкі, 1 шклянку аўсяных шматкоў, заліты кіпенем, крыху мукі. Цеста атрымаецца як для аладак.
2. Выпякаем на патэльні некалькі каржоў.
3. Ахалоджаныя каржы змазваем маянэзам (пажадана нізкакаларыйным), кладзём начынку, на кожны корж іншую (смажаныя грыбы з цыбуляй, тушаная капуста з морквай, рыбныя кансервы, сыр, салёныя агурочкі і г.д.) Усе прадукты трэба дробненька нарэзаць.
4. Верхні корж таксама трэба змазаць маянэзам, упрыгожыць вараным яйкам, натаркаваным сырам, крабавымі палачкамі, кукурузай альбо гарошкам. Па баках аздабляем торт зяленівам, каб быў і смачны, і яркі, прыгожы!
5. Для лепшай прапіткі торт пажадана на некалькі гадзін змясціць у холад.
6. Поспехаў у 2013 годзе, а таксама "Смачна есці!" жадае

***Аліцыя Трафімовіч***
*з горада Паставы.*

## Паважаны ксёндз-дэкан Анджэй Возьняк!

*Шчыра віншуем Вас з нагоды 10-годдзя Вашай працы ў нашай парафіі. Мы цэнім Вашу працу па аднаўленні касцёла ў свеце новай евангелізацыі. Вы вельмі шмат зрабілі ў гэтым плане, і спадзяёмся, што з Божай дапамогай зробіце яшчэ больш! Жадаем багатага плёну ў Вашай дзейнасці на карысць усім вернікам і на хвалу Пану Богу!*

***Парафіяне Пастаўскай парафіі Св. Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця НПМ***

## Ад шчырага сэрца!

*Чатыры гады назад мы з жалем і са слязамі на вачах развіталіся з нашым пробашчам Юрыем Ноцунем, які працаваў у нашай Варапаеўскай парафіі. Цяпер ён працуе ў Барадзенічах. Мы з удзячнасцю ўспамінаем ксяндза Юрыя, яго добрае і чулае сэрца.*

*У горы і радасці мы звярталіся да яго: ён заўсёды выслухае і дапаможа. Ён вучыў нас сваім прыкладам любіць Бога і бліжняга, маліцца, спяваць. Многія навярнуліся да Бога дзякуючы працы кс. Юрыя.*

*Сёлета кс. Юрыю Ноцуню спаўняецца 45 гадоў. Шчыра віншуем яго з юбілеем! Няхай Усемагутны Бог асвячае яго сваімі ласкамі. Ад усяго сэрца жадаем кс. Юрыю дапамогі Пана Бога, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, духоўных сіл, шчодрых дароў Духа Святога.*

*Дарагі кс. Юрый, мы памятаем пра Вас у малітве!*

***Удзячныя парафіяне***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Таццяна Смоткіна
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 1271

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3000 экз. Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 11.02.2013 г. у 17.18

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ